


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№9 (162), ЧЭРВЕНЬ 2013 ГОДА

**Цытата нумара:**

**Сапраўдны тыран заўжды пачынае з таго, што занявольвае грамадскае меркаванне**

***Чэзарэ Бэкарыя***

МЕРКАВАННЕ

## ПРАФАНАЦЫЯ ГРАМАДСКАГА АБМЕРКАВАННЯ

У заціснутым аўтарытарнымі абдымкамі грамадстве грамадскія абмеркаванні з'яўляюцца пустой фармальнасцю, гульнёй на адну браму.

Напрыканцы красавіка Гарадоцкі райвыканкам абвясціў аб правядзенні грамадскага абмеркавання "Дэталёвага плана развіцця цэнтральнай часткі г. Гарадка". Зацікаўленыя грамадзяне і юрыдычныя асобы маглі выказацца аб прапануемым праекце далейшага развіцця цэнтральнай часткі Гарадка аж да 2030 года.

Мнедавялосянаведацьрайвыканкам дзеля азнаямлення з гэтым праектам. Чаканню пабачыць экспазіцыю, пачытаць тэкст аб планах развіцця цэнтра Гарадка на відным месцы ў райвыканкаме не давялося збыцца. У маленькім кабінеце галоўнага архітэктара прапанавалася на сталах на некалькіх лістах вялікага фармата разгледзіць схему развіцця цэнтра Гарадка і выказаць свае заўвагі і прапановы.

Пра свае ўражанні і заўвагі тады напісаў артыкул "Рынка ў Гарадку не будзе?". Пытальнік напрыканцы назвы паставіў адмыслова дзеля таго, каб захаваць надзею, што ўлады прыслухаюцца да меркавання прадпрымальнікаў і выдзеляць месца для мясцовага рынку, а не працягнуць на далейшыя гады дамінуючае становішча райспажыўсаюза. Адпаведна вусна заявіў архітэктару, што для развіцця Гарадка неабходна на гэты час мець рынак прыватных прадпрымальнікаў, а таксама вырашаць транспартную праблему сувязі мікрараёна Юбілейная-Палявая з цэнтрам Гарадка і абмяркоўваць праграму жыллёвага будаўніцтва ў мікраёне Бярозаўка.

Мяне выслухалі, уключылі ў склад прадстаўнікоў грамадскасці для падвядзення вынікаў абмеркавання праекта на адпаведнай камісіі. І ўсё...

Прайшло паўтара месяца, а аб выніках абмеркавання не было чуваць. Між тым ведаю, што прадстаўнікі прадпрымальнікаў таксама хадзілі ў райвыканкам, каб данесці сваю думку аб неабходнасці захавання рынка ў Гарадку. Таму 13 чэрвеня патэлефанаваў у райвыканкам, каб даведацца, што з вынікамі абмеркавання. У адказ прапанавалі ў другой палове 14 чэрвеня наведаць кабінет 212 і падпісаць пратакол паседжання камісіі.

Але ў прапанаваным пратаколе наогул было заяўлена, што ніякіх заўваг і прапаноў ад грамадскасці не паступіла. І адпаведна мне трэба было засведчыць, што ўсе ў Гарадку ухваляюць ліквідацыю мясцовага рынку. Засведчыць гэта сваім подпісам я адмовіўся і накіраваў адпаведны электронны ліст з абгрунтаваннем сваёй адмовы на імя старшыні Гарадоцкага райвыканкама Васіля Муранкова, які павінен зацвердзіць дадзены пратакол.

Дадзеная гісторыя з грамадскім абмеркаваннем сведчыць, што нашы чыноўнікі не жадаюць прыслухоўвацца к меркаванням грамадзян, калі яны супярэчаць установкам зверху. Бо дэ-факта гэты праект пачаў ужо ажыццяўляцца і без грамадскага абмеркавання. З восені мінулага года вядзецца расчыстка плошчы па забудову ў мікраёне Бярозаўка, дзе раней шчыравалі дрэвасекі, а зараз працуюць бульдозеры.

Інакш і быць не можа ў краіне, дзе народ пазбаўлены права на свабоднае волевыяўленне на выбарах. І таму чым перш, пастановамі рэгламентаваць грамадскае абмеркаванне, неабходна стварыць умовы для дэмакратычных, свабодных выбараў. Тады і грамадскія абмеркаванні не будуць прафанацыяй, а будуць уплываць на рашэнні чыноўнікаў. А так ўлада не чуе народ ні на квазівыбарах, ні паміж імі.

**Леанід Гаравы**

ТАКАЯ СТАТЫСТЫКА

## У ЛІДЭРАХ ПА КРЫМІНАЛЬНЫХ СПРАВАХ

**Нацыянальны статыстычны камітэт назваў самыя крымінальныя раёны Беларусі. Гарадоцкі раён апынуўся сярод лідэраўпаколькасцізлачынстваў на 10 000 насельніцтва ў Віцебскай вобласці.**

У 2012 годзе ў Беларусі было здзейснена 102,13 тыс. злачынстваў супраць 132,05 тыс. злачынстваў у 2011 годзе, гаворыцца ў статыстычным зборніку Нацыянальнага статыстычнага камітэта «Правапарушэнні ў Рэспубліцы Беларусь». Больш за ўсё злачынстваў зафіксавана ў Мінску (24 926), Мінскай (16869) і Гомельскай абласцях (14741). У Гродзенскай вобласці іх налічвалася 9452, Магілёўскай - 11013, Брэсцкай - 11656, Віцебскай - 12441.

У Гарадоцкім раёне ў 2012 годзе было зафіксавана 336 злачынстваў пры 380 за 2011 год. Але пры ацэнцы крымінальнасці на 10 000 насельніцтва Гарадоцкі раён мае 137, то апынуўся на чацвёртым месцы ў Віцебскай вобласці пасля Віцебскага раёна – 180, Аршанскага (без горада) – 159 і Дубровенскага -- 151.

Мінск і Мінская вобласць лідзіруюць і па ліку зарэгістраваных злачынстваў на 10 тыс. насельніцтва. Тут іх было здзейснена адпаведна 132 і 120. На 10 тыс. насельніцтва Брэсцкай вобласці прыпадала 84 злачынствы, Гродзенскай - 89, Магілёўскай - 102, Віцебскай і Гомельскай - 103.

Сярод раёнаў Беларусі лідэрам па колькасці злачынстваў з'яўляецца Бабруйскі (без горада), дзе на 10 тыс. чалавек зарэгістравана 197 злачынстваў. У суседнім Глускім раёне зафіксавана 184 злачынствы на 10 тыс. насельніцтва, Бярэзінскім - 173, Пухавіцкім - 171, Гомельскім (без горада) - 166, Аршанскім (без горада) - 159, Хойніцкім - 156, Лагойскім - 152.

Менш за ўсё злачынстваў на 10 тыс. чалавек зафіксавана ў Драгічынскім і Жабінкаўскім раёнах (па 53), Іванаўскім (56), Ганцавіцкім (57), Нясвіжскім (58), Браслаўскім (63), Ляхавіцкім (65), Маларыцкім раёнах (66), Наваполацку (67) і Жодзіна (68).

**Л. Антонаў**

ЛАКАЛЬНЫ СТРАЙК

## ДАЛУЧЫЛІСЯ ДА СПЫНЕННЯ ПРАЦЫ

**Гарадоцкія прадпрымальнікі, якія гандлюють прамысловымі таварамі, 6 чэрвеня далучыліся да «аднадзённага папераджальнага спыненьня працы"**

На ўсіх кірмашах Віцебска значная частка гандлёвых месцаў пуставала. Таксама ў Гарадку і іншых гарадах вобласці часткова не працавала да 60% прадпрымальнікаў. Прадпрымальнікамі было заяўлена аб правядзеньні «аднадзённага папераджальнага спыненьня працы«.

Гэта акцыя пратэсту супраць патрабаваньняў тэхнічнага рэглямэнту Мытнага саюзу, які прадпрымальнікі лічаць чарговым вымаганьнем грошай у дзяржаўны бюджэт.

Тэхнічны рэглямэнт Мытнага саюза «Аб бясьпецы прадукцыі лёгкай прамысловасьці» прадугледжвае дакумэнтальнае пацьверджаньне якасьці тавараў. У тым ліку тых, што ўвозяцца ў Беларусь з Расеі, хаця гэта адзіная мытная прастора.

Каб атрымаць неабходныя дакумэнты, трэба або пацьвердзіць расейскую сэртыфікацыю якасьці, або аддаць частку тавару на адмысловую экспэртызу. Старшыня арганізацыйнай групы па стварэньні прафсаюзу індывідуальных прадпрымальнікаў «Разам» Ірына Яскевіч адзначыла: «Калі ў нас адзіная мытная прастора, і калі нейкі тавар выраблены ў Расеі, то чаму мы тут, у Беларусі, мусім наноў пацьвярджаць якасьць такога тавару? Каштуе гэта, між іншым, больш за мільён рублёў. Калі мы прадаём тавар, выраблены па-за межамі Мытнага саюзу, то мусім заплаціць за тэхнічную экспэртызу кожнага віду прадукцыі. А гэта яшчэ большыя грошы, не кажучы ўжо пра іншыя выдаткі. Уявіце: чалавек гандлюе кашулямі, набывае па 10 адзінак рознага фасону. Дык з гэтых 10-ці ён мусіць 5 адзінак аддаць на экспэртызу, зь іх 3 яму вернуць назад, а 2 сапсуюць, правяраючы хімічнымі рэчывамі. Гэта абумоўлена правіламі. Адпаведна, прадпрымальнік заплаціць грошы за экспэртызу, а кошт двух сапсаваных рэчаў мусіць „раскінуць" на астатні тавар, каб пакрыць выдаткі. Значыць, усё аўтаматычна падаражэе. Гэта адаб'ецца і на пакупніках, і на нашых продажах».

Віцебскія прадпрымальнікі палічылі, што дакумэнты пра адпаведнасьць тэхнічнаму рэглямэнту будуць каштаваць ад 40 да 70 мільёнаў для кожнага — у залежнасьці ад разнастайнасьці асартымэнту. Адзіная магчымасьць зэканоміць — гэта «звузіць» асартымэнт, што таксама закране інтарэсы пакупнікоў.

І грашовыя выдаткі, і верагодныя чэргі ў цэнтар стандартызацыі, дзе ёсьць адзіная ў вобласьці лябараторыя, і неабходнасьць страціць частку тавару на тэхнічныя досьледы, прычым зь невядомым вынікам, — усё гэта прадпрымальнікаў не задавальняе. Таму яны і пратэстуюць, спрабуючы зьвярнуць на сябе ўвагу кіраўніцтва краіны.

Першапачаткова гэты рэглямэнт павінен быў уступіць у сілу яшчэ з 1 студзеня 2013 года. Але пасьля мінулай хвалі незадавальненьня была прадстаўлена адтэрміноўка — да 1 ліпеня. Але прадпрымальнікі хочуць не новай адтэрміноўкі, а перагляду ўмоваў тэхнічнага рэглямэнту. Галоўным чынам, каб ня трэба было пацьвярджаць якасьць расейскіх тавараў, або тых, што імпартуюцца ў Расею і ўжо на расейскім памежжы Мытнага саюзу праходзяць кантроль якасьці.

Бо паўторныя праверкі прадпрымальнікі лічыць ні чым іншым, як спробай за іхны кошт папоўніць дзяржаўны бюджэт.

**Паводле Радыё Свабода**

НАШЫ ПРАВЫ

## ЗАТРЫМАЛІ АДРАЗУ ДЗВЕ ГРУПЫ БРАКАНЬЕРАЎ

**2 чэрвеня работнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыі на возеры Дзерабаўлязатрымалі некалькі парушальнікаў, якія рыбачылі забароненымі прыладамі лоўлі - стаўнымі сеткамі.**

Паводле інфармацыі прэс-службы Дзяржінспекцыі адзін з затрыманых выставіў 10 сетак агульнай даўжынёй каля паўкіламетра. Яго ўлоў склаў 34 асобіны розных відаў рыб вагой 14 кг. Двое іншых з дапамогай васьмі сетак вылавілі 41 асобіну розных відаў рыб вагой 17 кг.

У абодвух выпадках Гарадоцкі РАУС вырашае пытанне аб узбуджэнні крымінальных спраў па ч. 2 арт. 281 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь - незаконная здабыча рыбы, а пацягнула прычыненнешкоды ў буйным памеры - 55 і 57 базавых велічынь адпаведна.

Пакаранне па гэтаму артыкулу прадугледжана самае разнастайнае – ад штрафа да пазбаўлення волі на тэрмін да трох гадоў.

**Т. Гаражанка**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе стварэецца архіў за мінулыя гады.

ПАЗАПЛАНАВЫ КАНТРОЛЬ

# ПАЗАПЛАНАВЫЯ ПРАВЕРКІ НІХТО НЕ АДМЕНЯЎ

**Колькасць пазапланавых праверак інспекцый Міністэрства па падатках і зборах Віцебскай вобласці амаль дасягнула агульнай колькасці планавых праверак пра якія афіцыйна паведамляе Дзяржкантроль краіны.**

У адпаведнасці з заканадаўствам на першыя чатыры месяцы 2013 году Дзяржкантролем было вызначана 2716 аб'ектаў Віцебскай вобласці, на якіх павінна было ажыццявіць 4156 розных кантрольных або наглядных праверак. З гэтых 4156 праверак 1097 праверак павінны былі ажыццявіць інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах Віцебскай вобласці.

Але адначасова з планавымі праверкамі інспекцыямі Віцебшчыны за гэты перыяд было праведзена больш за тысячу пазапланавых тэматычных аператыўных праверак суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці і фізічных асоб рэгіёна. Пры гэтым амаль у 80% правераемых аб'ектаў інспектарамі выяўлены парушэнні заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Паводле інфармацыі прэс-службы інспекцыі МПЗ РБ па Віцебскай вобласці па выніках праверак даналічана падаткаў на суму 70 млн. рублёў, арыштавана тавараў і выяўлена даходаў ад незаконнай дзейнасці на суму 8,6 млрд. рублёў. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 802 парушальніка, накладзена адміністрацыйных штрафаў на суму 1,4 млрд. рублёў, у тым ліку па пастановаў падатковых органаў 1,0 млрд. рублёў.

У 450 выпадках суб'ектамі прадпрымальніцкай дзейнасці і іх службовымі асобамі дапушчана парушэнне ўстаноўленага парадку прыёму наяўных грашовых сродкаў пры рэалізацыі тавараў за наяўны разлік, на парушальнікаў накладзена штрафаў на агульную суму 1 млрд. рублёў.

Устаноўлена 23 факту парушэння парадку набыцця, захоўвання, транспарціроўкі і рэалізацыі тавараў, з ценявога абароту канфіскавана таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў і даходу на суму 1,7 млрд. рублёў, парушальнікі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафаў на 85,3 млн. рублёў.

**Л. Антонаў**

ПРАВАПАРУШАЛЬНІКІ

# БУЙНЫ РОСТ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫХ ПРАВАПАРУШЭННЯЎ

**За апошнія пяць гадоў у краіне адбываўся небывалы рост адміністрацыйных правапарушэнняў. На жаль Гарадоцкі раён і па гэтаму паказчыку апынуўся ў лідэрах па Віцебскай вобласці.**

Нацыянальны статыстычны камітэт паведаміў даныя аб дынаміцы адміністрацыйных правапарушэннях за апошнія пяць гадоў, пачынаючы з 2008 года. Агульная колькасць адміністрацыйных правапарушэнняў з 2008 г. з 1 918,7 тысяч правапарушэнняў дасягнула 2 686,9 тысяч у 2012г., што на 42 тысячы менш, чым у папярэднім 2011 годзе. За гэты час адбыўся рост правапарушэнняў у краіне амаль па ўсіх відах, за выключэннем дробнага хуліганства і кіравання транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення.

Найбольшы рост правапарушэнняў адбыўся па такіх відах, як распіццё спіртных напояў у грамадскіх месцах або з'яўленне ў грамадскім месцы ці на рабоце ў стане ап'янення, ўцягванне непаўнагадовых у антыграмадскую дзейнасць. Але амаль двайны рост правапарушэнняў звязаны з аўтааматарамі, якія парушаюць правілы эксплуатацыі транспартных сродкаў з 328,8 тыс. да 547,0 тыс выпадкаў з 2008 па 2012 гады, а таксама превышэнне хуткасці руху з 364,4 тыс. да 608,4 тыс. у гэтыя ж гады.

Адпаведна статыстыка зафіксавала і колькасць правапарушэнняў у абласцях і раёнах краіны, а таксама іх колькасць на дзесяць тысяч насельніцтва за апошні год. Па апошняму паказчыку Віцебская вобласць мае самыя нізкія лічбы. Калі ў Беларусі адбыўся рост адміністрацыйных правапарушэнняў на 10 000 чалавек з 2014 выпадкаў у 2008 годзе да 2838 у 2012, то ў Віцебскай вобласці адпаведна з 2039 толькі да 2475 – самы нізкі сярод абласцей краіны.

Але на фоне вобласці маюцца раёны, дзе колькасць правапарушэнняў на 10 000 насельніцтва значна вышэй, як абласнога, так і рэспубліканскага ўзроўня. Гэта найперш Аршанскі раён, дзе было зафіксавана 5218 правапарушэнняў на 10 000 чалавек, Віцебскі раён 4956, а далей Гарадоцкі – 3503. У нашым раёне колькасць адміністрацыйных правапарушэнняў павялічылася з 5535 ў 2008 г. да 8489 ў 2012 годзе. І гэта пры тым, што колькасць насельніцтва ў раёне змяншалася і на канец 2012 года дасягнула 24 231 чалавека.

Так Белстат зафіксаваў, што талерантныя, спакойныя грамадзяне Беларусі з'яўляюцца вялікімі адміністрацыйнымі правапарушальнікамі, якія ўсё-больш і больш парушаюць заканадаўства. А мо гэта кепскае заканадаўства, складзенае нелегітымнымі органамі? Або такая палітыка ўладаў -- лавіць і штрафаваць, як мага болей?...

**Л. Антонаў**

ЭКАЛАГІЧНАЯ ПРАБЛЕМА

# ПЕРШЫЯ ПАЦЯРПЕЛЫЯ Ў ЗМАГАННІ З БАРШЧЭЎНІКАМ

**У Гарадоцкую райбальніцу трапілі першыя змагары з баршчэўнікам Сасноўскага на тэрыторыі Гарадоцкага раёна.**

Гарадоцкі раён у мінулым годзе быў аднесены Мінпрыроды да катэгорыі раёнаў з небяспечным распаўсюдам баршчэўнікам Сасноўскага, бо на тэрыторыі раёна яго папуляцыя дасягнула каля 200 га. Гэта трэццяе месца па распаўсюджанню баршчавіка на Віцебшчыне пасля Ушацкага і Віцебскага раёнаў.

Там, дзе расце гэты пустазелле, змяняецца фларыстычны склад, выцясняюцца іншыя віды раслін. Акрамя экалагічных праблем, баршчэўнік Сасноўскага ўяўляе сур'ёзную пагрозу здароўю людзей. Яго сок, трапляючы на скуру чалавека, можа выклікаць дэрматыты, якія працякаюць па тыпу апёкаў першай, другой і нават трэцяй ступені. У цяжкіх выпадках назіраецца дрыжыкі, галаўны боль, павышэнне тэмпературы, а на скуры ўтвараюцца язвы, якія доўга не загойваюцца. Асабліва небяспечны гэты чужародны для нас «тып» для дзяцей, якіх прыцягваюць у ім высокія тоўстыя сцеблы і прыгожыя сухвецці.

Найбольш вялікі распаўсюд баршчэўнік атрымаў каля дарог, якія аднесены да землекарыстання ДРБУП №106 г. Гарадка. Змаганне з баршчэўнікам вядзецца ўжо не першы год і дзеля гэта на прадпрыемстве створана брыгада па змаганню з баршчэўнікам, чальцы якой маюць неабходную трымеры і экіпіроўку для працы. Але пры змаганні з баршчэўнікам атрымалася так, што сок трапіў на скуру двух работнікаў, якія з апёкамі былі госпіталізаваны ў райбальніцу.

І калі ДРБУП №106 г. Гарадка выйшла на змаганне з баршчэўнікам на прыдарожных землях, то побач на сельскагаспадарчых землях баршчэўнік працягвае расці. Зараз пасля фазы механічнай барацьбы з пустазеллем магчыма весці і хімічную барацьбу.

Але перамагчы монстра магчыма толькі пры мэтанакіраванай шматгадовай барацьбе, калі будзе ліквідавана кропка росту баршчэўніка, якая месцяцца звычайна на глыбіні 10 см. Гэтую кропку і павінны ліквідаваць уладальнікі зямлі.

Нагадаем, што не прынясце мер для барацьбы з баршчэўнік цягне адміністрацыйную адказнасць – ад папярэджання да штрафа ў 20 базавых велічынь. На першым этапе змагання з баршчэўнікам на Віцебшчыне было складзена 16 пратаколаў за непрыняцце мер барацьбы з баршчэўнікам, з якіх два ў чэрвені былі складзены на Гарадоччыне.

**Л. Антонаў**

НАША ЛІТАРАТУРА

# НЕЗВЫЧАЙНЫ ПОГЛЯД НА ПАЭМУ "ТАРАС НА ПАРНАСЕ"

**Альгерд Бахарэвіч, беларускі пісьменнік і перакладнік, у апошняй кнізе «Гамбурскі рахунак Бахарэвіча» аб беларускай літаратурнай класіке выклаў свой суб'ектыўны погляд на паэму "Тарас на Парнасе".**

Паэма "Тарас на Парнасе", аўтарякой Канстанцін Вераніцын (13.06.1834) нарадзіўся ў Астраўлянах на Гарадоччыне, і праз дзесяцігоддзе будзе прыцягваць увагу і пісьменнікаў, і чытачоў.

Звярнуўся да славутай паэмы і беларускі пісьменнік Альгерд Бахарэвіч, які пражывае ў Гамбургу, і вядзе аўтарскія праграмы на Радыё Свабода. У апошняй кнізе пісьменніка «Гамбурскі рахунак Бахарэвіча» ( выдадзена ў 2012 годзе) выкладзены суб'ектыўны погляд пісьменьніка на беларускую літаратурную класіку. У кнігу ўвайшлі больш за паўсотні эсэ, прысьвечаных яе самым вядомым постацям: ад Гусоўскага і Багушэвіча да Шамякіна і Быкава.

Эсэ "Усё цьвітуць і цьвітуць тыя макі" прысвечана паэме нашага зямляка Канстанціна Вераніцына "Тарас на Парнасе" Альгерд Бахарэвіч: "Усё цьвітуць і цьвітуць тыя макі"

"Паэму «Тарас на Парнасе» з поўным правам можна лічыць першым псыхадэлічным творам беларускай літаратуры. Пазьней, ужо ў дваццатым стагодзьдзі, у нас зьявіліся і іншыя сапраўдныя галюцынагенныя тэксты, сваю даніну модзе аддадуць нават такія класікі, як Шамякін і Панчанка, але менавіта гісторыя рахманага палясоўшчыка Тараса, якому ўдалося на трохі рассунуць «дзьверы ўспрыманьня», стала першай ластаўкай новага жанру.

Ня дзіва, што паэма засталася ананімнай, а стацкі саветнік Канстанцін Вераніцын, якому прыпісваецца аўтарства, пры жыцьці так і не наважыўся яго прызнаць, баючыся праблем на службе: у канцыляры чыгуначнага міністэрства наўрад ці сталі б цярпець супрацоўніка з такой сумнеўнай славай. Як толькі не абзывалі «Тараса»: і люстэркам нацыянальнага сялянскага мэнталітэту, і гумарыстычнай байкай, і сатырай на нейкія расейскія літаратурныя зьвягі.

Псыхадэлічная сутнасьць тэксту пры гэтым цалкам ігнаравалася: ці то ад няўважлівага прачытаньня, ці то з пачуцьця ілжывага патрыятызму — Тарас на Парнасе маўляў, «беларускі палясоўшчык да такой заходняй лухты ня схільны». Яшчэ як схільны. Радкі, якія служаць ключом да разуменьня паэмы, знаходзяцца ў чацьвертай страфе:

«Авохці мне! Як там прыгожа!
Як быццам хто намаляваў!
Чырвоны краскі, мак і рожа...!»

Мак. Адкуль тут мак, чаму ён цьвіце? Прыгода Тараса адбываецца «на самага Кузьму-Дзям'яна» — мяркуючы па ўсім, 26 верасьня. Але бог зь ім, з часам. Тарас, відавочна, бачыць сапраўдны опіюмны мак, papaver somniferum. Цэлую плянтацыю, пра існаваньне якой ня ведалі ні пан, ні сам палясоўшчык. Не забывайма ся і пра эпоху, у якую стваралася паэма: зусім нядаўна адгрымела опіюмная вайна паміж Кітаем і Ангельшчынай, чуткі пра якую, несумненна, дайшлі і да К. Вераніцына....

Нездарма незвычайная прыгажосьць, якую заўважае Тарас, апынуўшыся па той бок doors of perception, выяўляецца найперш у маках і ружах — Олдас Гакслі ў сваім знакамітым эсэ таксама апісвае кветкі, якія стаялі перад ім на стале падчас першага вопыту з псыхадэлікамі: «Гэта быў малюнак, дакладны і праўдзівы... ... Я глядзеў на незвычайнае спалучэньне колераў і бачыў тое, што бачыў Адам у дзень свайго стварэньня, цуд аголенага існаваньня. Я працягваў глядзець на кветкі... гэта была плынь прыгажосьці, якая імкнула да прыгажосьці яшчэ больш узвышанай...»

Нешта падобнае адбываецца і з Тарасам. «Стаяў я доўга і дзівіўся, разявіў зяпу і глядзеў»,— распавядае Тарас пра свой стан, выкліканы ўзьдзеяньнем апіятаў.

Потым зьяўляецца і першая галюцынацыя: «кудравы крылаты хлапчына», які тлумачыць Тарасу, дзе ён апынуўся: на дарозе з таго сьвету на Парнас. Тарас бярэ ў рукі кій і рушыць па дарозе наперад; ён чымсьці падобны ў гэтыя хвіліны на Дантэ, толькі нос кірпаты." (скарочана)

Спампаваць або замовіць кнігу "Гамбурскі рахунак Бахарэвіча" магчыма тут:
**www.svaboda.org/content/article/24781393.html**

ПРАЦА ІНСПЕКТАРОЎ

# КОЖНЫ ТЫДЗЕНЬ МАТЭРЫЯЛЫ НА КРЫМІНАЛЬНУЮ СПРАВУ

**З пачатка траўня супрацоўнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету амаль кожны тыдзень накіроўваюць матэрыялы ў Гарадоцкі РАУС наконт узбуджэння крымінальнай справы супраць чарговых браканьераў.**

Паводле інфармацыі прэс-службы Дзяржінспекцыі і 6 чэрвеня работнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыі на воз. Нэгра Стадалішчанскага с/с затрымалі двух мясцовых жыхароў. Гэтыя жыхары з выкарыстаннем двух стаўных сетак агульнай даўжынёй 108 м незаконна здабылі 45 асобін розных відаў рыб агульнай вагой 16 кг.

Гарадоцкі РАУС вырашае пытанне аб узбуджэньні крымінальнай справы па ч.2 ст.281 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь - незаконная здабыча рыбы, якая пацягнула прычыненне шкоды ў буйным памеры - 89 базавых велічынь.

**Т. Гаражанка**

НАША БУДУЧЫНЯ

# ПРОЕКТ ПУТИНА ОТСЕКАЕТ БЕЛАРУСЬ ОТ ЕВРОПЫ

**На международной арене Минску хронически не «климатит». На сей раз Александр Лукашенко не долетел до Бишкека и не решил вопросы с Путиным в Астане. Короче, сплошные «не». Зато продолжает решать свои вопросы российский президент. В Астане 29 мая лидеры России, Казахстана и Беларуси договорились, что уже к 1 мая следующего года будут готовы проекты документов о создании Евразийского экономического союза.**

Владимиру Путину крайне важно, чтобы этот престижный для него проект был запущен в срок, 1 января 2015 года, без сучка и задоринки. Белорусский же партнер в своем фирменном стиле рассчитывает на предоплату за интеграционную лояльность. Но пока Россия не торопится быть щедрой душой. На встрече лидеров тройки в Астане Лукашенко был вынужден дать добро на продолжение евразийского проекта, однако при этом вернулся домой без подарков.

**Москва требует платить по счетам**

Сначала наблюдатели прогнозировали, что Путин и Лукашенко потолкуют об острых двусторонних проблемах на саммите ОДКБ в Бишкеке, но туда белорусский официальный лидер лететь передумал. Как дружно предполагают эксперты — из-за натянутых отношений с хозяевами мероприятия по причине укрывательства в Беларуси свергнутого киргизского президента Курманбека Бакиева.

Обидно: как недавно выяснилось, именно с подачи Кремля и Вашингтона в 2010 году Лукашенко приютил ставшего вдруг безработным коллегу, но большие державы умыли руки, а гостеприимному хозяину приходится отдуваться.

Короче, Бишкек накрылся. Но и в Астане, судя по всему, Лукашенко с Путиным пересечься тет-а-тет не удалось. По крайней мере, официально сообщается лишь об отдельной встрече белорусского руководителя с казахстанским коллегой.

«Путин в очередной раз хочет воспитать Лукашенко, потому что тот не выполняет обязательств по части приватизации», — считает Валерий Карбалевич, эксперт аналитического центра «Стратегия» (Минск). В комментарии для Naviny.by аналитик подчеркнул: конфликтность является органической частью белорусско-российских отношений, так что здесь — ничего нового.

Между тем по-прежнему висит в воздухе нефтяной баланс: Москва дозирует поставки поквартально, понуждая таким образом к уступке активов. Не торопится Кремль давать и запрошенный Минском кредит на модернизацию. Если и дадут, то под так называемые совместные проекты типа МАЗ — КамАЗ, то есть, если без камуфляжа, под ту же сдачу активов.

**Евразийская интеграция: шипов все больше, розами не пахнет**

В общем, Москва прижимает, а вот пользы от громко разрекламированной экономической интеграции пока кот наплакал. Зато шипов вылезает все больше. На сегодня российский рынок для белорусской продукции сжимается, и это, по прогнозам, станет долговременной тенденцией. Большие проблемы со сбытом МАЗов, а спутниковые снимки скопившихся за оградой МТЗ тракторов просто повергают в ужас (поговаривают о 20 тысячах машин, которые некуда девать).

Между тем России, вступившей в ВТО, своя рубашка ближе к телу. И на днях первый вице-премьер Беларуси Владимир Семашко на докладе главе государства посетовал, что «с 1 января Россия вступила в ВТО, а российский рынок для нас один из основных, особенно что касается продукции машиностроения. И мы уже в полной мере хлебнули негативных моментов, оказавшись по факту в ВТО, поскольку мы находимся в Таможенном союзе».

Отдельный вопрос, конечно: а почему Беларусь уже почти двадцать лет мылится со вступлением в ВТО? Все воевали с проклятыми буржуинами, от которых теперь напрямую зависит, насколько быстро туда примут. Впрочем, и после принятия врата рая не откроются — напротив, дешевый зарубежный товар может окончательно задавить нереформированные отечественные производства. Все это — расплата за пресловутую «стабильность», которая обернулась застоем, выпадением из мировых экономических процессов.

**От России ждут проплаты**

По прогнозам Карбалевича, документы о создании Евразийского союза, скорее всего, подпишут в намеченные сроки, но вот выполнять обязательства стороны будут в лучшем случае лишь в той степени, в какой им это выгодно.

На сегодня, отмечает эксперт, партнеры никак не могут перейти от таможенного союза к экономическому, то есть обеспечить, в частности, свободное передвижение товаров. Беларусь, например, ставит барьеры российской продукции, и наоборот. «А что будет, когда дойдет очередь до реального согласования макроэкономической политики?» — задается вопросом эксперт. «Трудно говорить даже об экономическом союзе, не говоря уж о политическом», — резюмировал Карбалевич.

В сухом же остатке после Астаны то, что идею Евразийского союза «пока никто на корню не зарезал», отметил в комментарии для Naviny.by аналитик BISS (Вильнюс) Андрей Елисеев. По его мнению, пока успехи евразийской интеграции не стоит преувеличивать, так как даже в сфере торговли не все препятствия ликвидированы.

Дальнейший прогресс в рамках тройки будет зависеть от того, «насколько хорошие компенсаторные меры предоставит Россия» Беларуси и Казахстану, считает аналитик. В частности, последние заинтересованы, чтобы казахстанская нефть по российским трубам шла на переработку на белорусские НПЗ.

**Украина — в Европу, Беларусь — в Азиопу**

Да, кое-какие выгоды можно будет урвать. Но закавыка в том, что евразийская интеграция отсекает Беларуси возможность подписать в перспективе соглашение об ассоциации и зоне свободной торговли с ЕС — то самое, которое по осени на Вильнюсском саммите «Восточного партнерства» может подписать Украина. Нельзя сидеть на двух стульях.

И хотя Киев в лице Виктора Януковича, которого умасливали в Астане, маневрирует (стараясь, в частности, выторговать дешевый российский газ), «пока не видно, что Киев готов сменить вектор интеграции», говорит Елисеев. Статус же наблюдателя в Таможенном союзе, который собираются дать Украине, будет символическим, считает аналитик.

Московский «КоммерсантЪ» в репортаже из Астаны по традиции слил пикантную инфу из кулуаров: после трудных переговоров Лукашенко, полагая, что микрофон выключен, обронил: «Янукович к нам, видимо, уже никогда не приедет!».

Да, Украина, пусть и со скрипом, выбирает, похоже, Европу. Беларусь пока сползает в Азиопу.

**http://naviny.by**
**Александр Класковский**

ЭКАНАМІЧНЫ СТАН

# МВФ РАСЧАРАВАНЫ. ГАЛАВАКРУЖЭНЬНЕМ АД ПОСЬПЕХАЎ

**Міжнародны валютны фонд абнародаваў высновы свайго аналізу эканамічнага стану Беларусі. Такія справаздачы Фонд робіць раз на год, на падставе вывучэньня сытуацыі і абмеркаваньня з ўладамі адпаведнай краіны.**

У справаздачы канстатуецца, што пасьля крызісу 2011 году эканоміка РБ стабілізавалася напачатку 2012 году. Меры, прынятыя ўрадам, прывялі да стабілізацыі абменнага курсу, зьніжэньня інфляцыі, палепшыўся плацёжны балянс, у тым ліку і за кошт гандлю растваральнікамі.

Аднак імкненьне забясьпечыць заплянаваны рост ВУП і рост рэальных заробкаў, які значна перавышаў рост прадукцыйнасьці працы, прывялі да вяртаньня нестабільнасьці і захаваньня інфляцыі на высокім узроўні — адзначаецца ў дакладзе МВФ.

У ім таксама ўхваляюцца меры ў сфэры структурных рэформаў, у прыватнасьці, крокі ў падатковай рэформе і прыняцьцё новага закону аб банкрутсьве.

Выканаўчыя дырэктары Фонду выказалі занепакоенасьць тым, што беларускія ўлады імкнуцца адначасна выканаць несумяшчальныя задачы з адным паказьнікі росту ВУП і ўтрыманьня інфляцыі на нізкім узроўні. Фонд рэкамэндуе працягваць скарачаць мэтавае фінансаваньне і абмежаваць рост намінальных заробкаў паказьнікам тэмпу інфляцыі, іншымі словамі, не дапускаць росту рэальных заробкаў дзеля аднаўленьня страчанай канкурэнтаздольнасьці.

МВФ таксама гаворыць пра неабходнасьць комплекснай праграмы рэформаў, якая б уключала ў сябе лібэралізацыю цэнаў, прыватызацыю, рэструктурызацыю дзяржпрадпрыемстваў і адрасныя сыстэмы сацыяльнай абароны.

Да дакладу прыкладаецца табліца рызыкаў для беларускай эканомікі. Тры зь іх ацэньваюцца як высокія.

1. Зьмякчэньне палітыкі для дасягненьня вызначанага ўрадам паказьніку росту ВУП на 8.5% паставіць пад пагрозу макраэканамічную стабільнасьць.

2. Беларусь мае высокія патрэбы ў валавым фінансаваньні на 2013-2014 гады. Недаатрыманьне зьнешняга фінансаваньня прывядзе да далейшага скарачэньня рэзэрваў і ўзмацненьня рызыкі ціску на абменны курс.

3. Пагаршэньне ўмоваў зьнешняга гандлю прывядзе да пагаршэньня плацёжнага балянсу і далейшаму павялічэньня патрэбаў ў зьнешнім фінансаваньні.

Мы папрасілі пракамэнтаваць гэты дакумэнт эканаміста Сяргея Чалага.

Чалы: Калі коратка, то Фонд расчараваны. Яны канстатуюць, што ў нас было галавакружэньне ад посьпехаў. У першай палове 2012 году мы мелі станоўчыя наступствы жорсткай посткрызіснай палітыкі. Але пасьля гэтага нашы ўлады вырашылі, што можна нічога не рабіць і вярнуліся да старых практык — да штучнага стымуляваньня ўнутранага попыту, апераджальнага росту заробкаў у параўнаньні з прадукцыйнасьцю працы і мяккай грашовай палітыкі. Калі прыбраць дыпляматычныя фразы, за дакладу вынікае, што на працягу 2012 году мы бяздарна прамантачылі вакно магчымасьцяў. І ізноў пачынае наступаць на тыя ж граблі, якія выклікалі крызіс 2011 году.

РС: А кажучы проста, яны прагназуюць, што пры працягу цяперашняй палітыкі паўторыцца 2011 год?

Чалы: Наўпрост яны так не гавораць. Але яны так не казалі і ў 2010 годзе. Але ёсьць папярэджаньні, што вы крыху пасьпяшаліся з чаканьнямі наконт інфляцыі. І што стаўку рэфінансаваньня, якую вы так хутка зьніжаеце, магчыма, давядзецца рэзка падвышаць. Заспакоенасьць наконт фармальна плаваючага курса — таксама рэч небясьпечная. Курс фактычна фіксаваны. Фонд ня можа наўпрост сказаць, што патрэбная дэвальвацыя, яны дыпляматычна кажуць, пра «неабходнасьць захаваньня гнуткасьці плаваючага курса».

**Юры Дракахруст**
**http://www.svaboda.org/content/article/25014908.html**

НАШЫ КОШТЫ

# НАШИ ОВОЩИ ДОРОЖЕ, ЧЕМ У СОСЕДЕЙ

**Белорусские власти признали, что овощи в нашей стране стоят существенно дороже, чем у соседей.**

Этот секрет Полишинеля поведал министр торговли Валентин Чеканов на заседании президиума Совета министров, сославшись на информацию МИД.

По данным, которые приводит сайт правительства, на 23 мая свежие огурцы в Беларуси стоили дороже, чем в Украине (на 44%), Латвии (на 11%) и Польше (на 47%).

Стоимость зеленых культур в Беларуси выше, чем в упомянутых странах на 32-82%!

Также министр констатировал, что ассортимент ранних овощей и фруктов от отечественного производителя пока не может удовлетворить потребительский спрос.

Чеканов предложил для повышения конкурентоспособности отечественной ранней овощной продукции провести анализ состава затрат при формировании отпускных цен, а также снизить издержки.

Раскроем еще одну «военную тайну»: не только ранние овощи в Беларуси стоят дороже, чем у соседей, но и еще ряд позиций, за которые отвечает сельское хозяйство – свинина, говядина и т.д.

А теперь сопоставим это с тем, что сказал первый вице-премьер Владимир Семашко, открывая 5 июня выставку «Белагро». Как передает БелаПАН, высокопоставленный чиновник сообщил, что на программу возрождения села в 2005-2010 годах потрачено 42 миллиарда долларов, а новая программа (теперь уже по стабилизации села) на 2011—2015 годы обойдется еще 25 миллиардов.

Стоит отметить, что наш аграрный комплекс пользуется целым рядом льгот. К примеру, как отметил Семашко, «сельхозпредприятия покупали калийные удобрения по 16-18 долларов за тонну при том, что средняя цена на мировом рынке — 434 доллара».

И при всем этом цены на мясо и овощи в Беларуси выше, чем в Польше, где средняя зарплата в 2 с лишним раза больше нашей. Ох, не в коня получается корм. Каким-то извращенным получилось «возрождение села».

Почему же, вложив огромные деньги в сельхозпредприятия, на выходе Беларусь получает очень дорогую продукцию? Вот мнение эксперта директора исследовательского центра Института приватизации и менеджмента Александра Чубрика.

– Если бы я знал, что существует точный ответ на этот вопрос, я бы с удовольствием его послушал, – иронизирует эксперт в экспресс-комментарии «Салідарнасці». – Когда мы видим рыночные искажения, связанные с сельским хозяйством, в первую очередь, они связаны со стимулами, которые для них созданы. Сельхозпроизводители получают огромные субсидии от государства. Если бы эти субсидии были направлены на снижение себестоимости продукции, тогда они были бы оправданы. Но на сегодняшний день отрасль субсидируется по принципу – производите хоть что-нибудь, а в такой ситуации система не стремится к самосовершенствованию.

Резюме: нет стимула повышать эффективность, когда субсидии дают, а на импортную продукцию введен ряд ограничений. Если бы была конкуренция, отечественный производитель озаботился бы эффективностью ценообразования и производства, а в противном случае он не заинтересован в этом.

**Сергей Балай**
**http://www.gazetaby.com**

ЭЛЕКТРАЭНЕРГІЯ

# ПОСЛЕ РАЗГРОМА «МАФИИ» ЦЕНЫ НА ЭЛЕКТРИЧЕСТВО ПОДСКОЧИЛИ

**С 1 июня электричество для жителей Беларуси дорожает на 15,7%. Такое решение принято правительство.**

Вэтойсвязиуместнонапомнить, что 16 апреля Александр Лукашенко провел совещание по вопросу функционирования и развития белорусской энергетики.Тамглавагосударства устроил настоящий разнос руководителям отрасли.

Лукашенко отдельно указал на проблему постоянного повышения тарифов на электричество, вызывающую негативную реакцию, как субъектов хозяйствования, так и населения: «На этом начинают активно спекулировать и наши противники. Поэтому мной было поручено Комитету государственного контроля провести детальную проверку обоснованности формирования тарифов».

В свою очередь, председатель КГК Александр Якобсон рассказал, при помощи каких маленьких хитростей завышаются тарифы на электричество. Также он заявил, что энергетики тратят неоправданно большие средства на содержание многочисленных санаториев, баз отдыха и оздоровительных комплексов, относя эти расходы на себестоимость.

«Вы душите население, душите предприятия, вы приходите ко мне и постоянно просите и требуете: надо тарифы увеличивать для населения – надо на мусор, на то, на это», – демонстративно возмутился Александр Лукашенко. – «Энергетики сформировали общество,котороеможноназвать государством в государстве. Это некая своя независимая организация с элементами мафии и банды».

В результате руководитель Беларуси поручил соответствующим органам разобраться и с санаториями, и с автомобилями, на которых ездят энергетики, и с кредитами, которые они сами себе выдают.

«Порядокдолженбытьнаведен. И он будет наведен, – подчеркнул Лукашенко. – «В течение этого месяца все вопросы должны быть решены».

Спустя пару дней глава Беларуси подписал указ об отставке министра энергетики Александра Озерца – «за провалы в управлении отраслью». Также должностей лишились первый замминистра Эдуард Товпенец и генеральный директор «Белэнерго» Алексей Ширма.

Никто, конечно, не ожидал, что с приходом в отрасль нового руководства тарифы на электричество снизятся. Но вот на то, что они какое-то время после такого разноса не будут повышаться, некоторые граждане рассчитывали. Как выяснилось, напрасно.

Несмотря на то, что «мафия» разгромлена, электричество опять подорожало – на 15,7%. К примеру, с 1 июня за 1 кВт.ч в жилых домах (квартирах), оборудованных электроплитами, придется платить 375,9 рубля (сейчас – 324,9 рубля). Такой вот получился «непредвзятый взгляд на систему ценообразования».

Вырисовывается тенденция: если глава государства публично возмущается тем, что цены на что-либо завышены, – значит, жди подорожания…

**Вадим Ливнев**
**gazetaby.com/cont/art.php**

ПРАБЛЕМЫ ЗБЫТУ

# «… ГЭТА НАШ ЗАЛАТЫ ЗАПАС»

**Тысячы трактароў у раёне МТЗ, сталі адной з самых крэатыўных тэм, якія абмяркоўваюцца на гэтым тыдні ў Байнэце. Аднак, па версіі кіраўніцтва завода, «усё добра, цудоўная маркіза».**

У адказ на пытанне «Камсамольскай праўды ў Беларусі», ці праўда, што на прадпрыемстве назапасіліся дзясяткі тысяч трактароў, генеральны дырэктар МТЗ Уладзімір Ваўчок заявіў: « Гэтыя лічбы неаб'ектыўныя і памылковыя ў разы. У нас проста немагчыма размясціць такую колькасць тэхнікі.»

Зрэшты, сёе-тое ў загашніку сапраўды маецца. Ваўчок кажа, што гэта тлумачыцца праблемамі Расіі, якая, уступіўшы ў СГА, скараціла падтрымку сваёй сельскай гаспадаркі, і Еўропы, дзе значна замарудзіліся тэмпы росту эканомікі.

Але, на думку гендырэктара, трактары, назапашаныя на складах, - гэта не праблема. «Гэта наш залаты запас», - кіраўнік прадпрыемства.

Якая выдатная крэатыўная логіка! Згодна з ёй, Беларусь можа лічыцца адной з самых багатых краін свету. А ўсё дзякуючы гарбарнай і абутковай прамысловасці (на складах яе прадпрыемстваў, па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, на 1 мая сабралася 268,1% ад сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці), тэкстыльнай і швейнай вытворчасці (181,4%) і іншых галінаў. Свой прыкметны ўклад у фарміраванне «залатога запасу» ўносяць прадпрыемства па вытворчасці машын і абсталявання, дзе складскія запасы ацэньваюцца ў 10 трыльёнаў беларускіх рублёў.

Мы, дурныя, думалі, што ў прадпрыемстваў праблемы са збытам.І АляксандрЛукашэнка туды ж: нервуецца з нагоды перапоўненых складоў. А на самай справе чым больш прадукцыі не прададзена, тым мацней родная краіна!

**Вадзім Ліўнёў**
**“Свободные новости плюс”**

СПАЖЫВЕЦКІ РЫНАК

# ІМПАРТ ЗАХОПЛІВАЕ ГАМАНЦЫ БЕЛАРУСАЎ

**Крызіс забяспечваў ўстойлівы збыт айчынным вытворцам на ўнутраным рынку: спажыўцы, даходы якіх былі невялікія, «куплялі беларускае». Цяпер сітуацыя прынцыпова іншая.**

Цяпер сітуацыя прынцыпова іншая: зарплаты насельніцтва павялічыліся, спажывецкая актыўнасць вырасла і ... пакупнікі пераключыліся з айчынных тавараў на імпартныя. Итернет-газета Naviny.by распавядае аб выніках адбыліся змяненняў на спажывецкім рынку.

Беларускія тавары губляюць долю

Сведчанняў таго, што імпарт захопліває спажывецкі рынак Беларусі, некалькі - гэта пацвярджаюць і дадзеныя знешняга гандлю, і вынікі продажаў тавараў у беларускіх крамах.

У першым квартале 2013 года імпарт харчовых тавараў павялічыўся ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 31,5%, нехарчовых - на 34,9%.

Значны прырост імпарту адбыўся, галоўным чынам, па тых групах тавараў, якія традыцыйна завозяцца ў краіну. Так, вырас імпарт садавіны і гародніны (капусты - у 2,2 разы, цытрусавых - на 32,9%, вінаград - на 33,5%). Акрамя гэтага, павялічыўся імпарт алкагольнай прадукцыі: піва - на 31%, моцных спіртных напояў - на 30,2%. Рост імпарту сведчыць пра рост спажывання пералічаных пазіцый на беларускім рынку.

Але ў цэлым, трэба сказаць, доля імпарту ў сегменце харчовых тавараў застаецца адносна невысокай ў Беларусі. Паводле звестак Белстата, доля продажу тавараў імпартнай вытворчасці гандлёвымі арганізацыямі ў студзені-красавіку 2013 склала 29,1%, у тым ліку харчовых прадуктаў, напояў і тытунёвых вырабаў - 17,7%.

Зусім іншая карціна ў сегменце нехарчовых тавараў. Імпарт тут наступае па ўсіх франтах. Як бачым на ніжэйпрыведзенай табліцы, практычна па ўсіх таварных пазіцыях, якія ўлічвае афіцыйная статыстыка, імпарт істотна вырас.

Асабліва адчувальны наплыў імпарту па наступных таварных групах: тэлевізараў, бытавой тэхніцы, прадукцыі легпрама. Імпартных тэлевізары ў студзені-красавіку 2013 г. ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года павялічылі сваю долю на беларускім рынку на 19,8 працэнтнага пункта да 79%, удзельная вага прывазных пральных машын падскочыла да 50,6% (супраць 32,4% годам раней). Таксама, як бачым, прыкметна павялічылася доля на ўнутраным рынку імпартных трыкатажных і панчошна-шкарпэткавых вырабаў - з 20,3% і 9,3% у мінулым годзе да 29% і 16,2% адпаведна ў студзені-красавіку 2013г..

Паводзіны беларусаў: даўняя заканамернасць

Галоўную прычыну росту долі імпарту на ўнутраным рынку эксперты бачаць у росце заробкаў. Калі ў першым квартале 2012 года сярэдняя зарплата складала ў эквіваленце 364 долары, то ў студзені-сакавіку 2013 г. - 524 даляра.

«Рост спажывецкага імпарту выкліканы, у першую чаргу, павелічэннем даходаў насельніцтва. Калі ў беларусаў растуць зарплаты, яны пачынаюць пераключацца на імпартныя тавары. Гэта даўняя заканамернасць», - кажа навуковы дырэктар Даследчага цэнтра ІПМ Ірына Тачыцкая.

Яшчэ адну прычыну росту спажывецкага імпарту назіральнікі бачаць у тым, што хуткі рост заробкаў, які назіраўся ў мінулым годзе, павялічыў сабекошт вытворчасці айчыннай прадукцыі.

«Павелічэнне заробкаў у Беларусі павышае сабекошт вытворчасці прадукцыі, а адпаведна і яе канчатковую цану. На гэтым фоне імпартная прадукцыя,кошткоййудоларавым выразе застаецца нязменнай, становіцца больш цікавай у вачах пакупнікоў», - мяркуе сустаршыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Віктар Маргелаў. Росту імпарту, мяркуе эксперт, спрыяе і той факт, што ў краіне актыўна развіваецца буйнафарматны гандаль, дзе шырока прадстаўлены прывазныя тавары.

Наплыў імпарту органы дзяржкіравання Беларусі спрабуюць абмяжаваць адміністрацыйнымі спосабамі - шляхам,упрыватнасці,давядзення дырэктыўных паказчыкаў да арганізацый гандлю па аб'ёме продажаў беларускіх тавараў. Інтэрнэт-газета Naviny.by на гэтым тыдні ўжо распавядала пра ліст, у якім профільнае ўпраўленне сталічнай мэрыі просіць гандлёвыя арганізацыі давесці долю айчыннай прадукцыю да 85% у агульным аб'ёме продажаў кандытарскіх вырабаў.

Зрэшты, адміністрацыйныя метады наўрад ці дазволяць справіцца з патокамі імпарту, лічаць эксперты. «Пакупнікі адміністрацыйныя метады не разумеюць. Таму толькі збольшага адміністрацыйны рэсурс дазволіць вырашыць пытанні са збытам беларускай прадукцыі », - лічыць Віктар Маргелаў.

**Дзмітрый ЗАЯЦ**
**Белапан**

ПЫТАННЕ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

# БЕЛАРУСЫ ШТУРМУЮЦЬ АДДЗЕЛЫ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

**Ажыятаж, выкліканы чарговым рашэннем урада аб пераводзе непрыватызаваных жылля ў арэнднае, выліўся ў пратэсты звычайных грамадзян. З-за гарачая да мяжы абстаноўкі нават быў выкліканы спецназ.**

Інцыдэнтадбыўся5чэрвеняў аддзелепрыватызацыііабмену жылой плошчы Брэсцкага КУП ЖРЭУ. Прыкладна ў 14 гадзін у дзяжурную частку міліцыі паступіла паведамленне пра тое, што ў вышэйназваным аддзеле вялікая навала нервовага народаі становішча, блізкае да канфліктнага. На выклік прыбылі супрацоўнікі спецназа палка патрульна-паставой службы, якія зрабілі зачыстку памяшкання і засталіся ў ім да канца працоўнага дня, паведамляе «Вячэрні Брэст».

Варта адзначыць, што ажыятаж падняўся пасля рашэння ўрада краіны вылучыць беларусам год на прыватызацыю жылля. Непрыватызаваныя кватэры хутка пяройдуць у разрад арэндных. Дакумент зараз знаходзіцца на разглядзе ва ўрадзе.

Зараз у краіне 392 тысячы непрыватызаваных кватэр. Гэта 14% ад агульнай колькасці жылля. Як мяркуе праект указа, у беларусаў будзе год на роздум афармляць ўласнасць на квадратныя метры ці не.

У выпадку адмовы ад прыватызацыі за кватэру давядзецца плаціць арэнду дзяржаве. Пакуль невядома, наколькі высокай апынецца дзяржаўная арэнда, затое вядома, што за няўплату жыхары хутка апынуцца на вуліцы.

5 чэрвені прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч паведаміў, што за прыватызацыю па цяперашніх правілах грамадзянам прыйдзецца выкласці кругленькую суму.

«Чым дом навей, тым ён даражэй. Напрыклад, у Фрунзенскім раёне Мінска прыватызацыя двухпакаёвай кватэры тыпавых спажывецкіх якасцяў будзе каштаваць ад Br 35 млн. у доме 1964 пабудовы да Br 142 млн. у доме 1994-го года », - адзначыў прэм'ер-міністр.

Пры гэтым як мінімум 10% ад сумы трэба ўнесці адразу, а астатняе можна будзе выплаціць у растэрміноўку на працягу 40 гадоў. Праўда, для прыватызацыі можна выкарыстоўваць нявыкарыстаныя раней чэкі «Жыллё». Але калі раней яны пакрывалі асноўную частку кошту, то цяпер толькі нязначную.

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 17.06.2013 у 19.45.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.